16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

12 • 2018
снежань

Аляксандр ШМІДТ.

Міхась СЛІВА
«Футра Дзеда Мароза»
*Гумарэска* 5

«Навагоднія традыцыі»
*Тэст* 14–15

Эротыкатуры
Алега ГУЦОЛА 23

# Зімовыя ўсмешкі Пятра КОЗІЧА















Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ х 2.

**Віктар РЭЧЫЦ**

## Ёлка Іна

На гулянку да сястры
Трапіў я, да Валі.
Новы год, хоць і стары,
Разам святкавалі.

Падпілі крыху спярша
Дарагія госці.
Прагнуць пачала душа
І яшчэ чагосьці.

«Будзеш ёлку разбіраць», –
Мне тады сказалі.
Ды тканінай – не парваць –
Вочы завязалі.

Адмаўляцца ад гульні
Нібыта няёмка.
Ёлка – Іна, не з радні,
А сястры сяброўка.

На сукеначцы яе
Шмат прышчэпак пругкіх.
Зняць павінны іх мае
Залатыя рукі.

Я абследаваць пачаў
Успяпую Іну.
Як праверыў на плячах,
Перайшоў на спіну.

Хоць глядзела ўся радня,
Ды куды падзецца?
І прышчэпкі мацаў я
Там, дзе б'ецца сэрца.

Паўзу ў пошуках зрабіў:
Мо недаспадобы
Мой настрой і мой парыў
Маладой асобе?

Не, пратэставаць яна
Яўна не хацела.
Калі гэткая гульня –
Рабі справу смела!

Свой «вияж» працягваў я
Па нагах жаночых.
У пакоі шум узняў
Нумар наш святочны.

Фініш. «Ты пачырванеў,
Не ад чаркі, мусіць.
Спадабалася ці не?» –
«Так. Не буду хлусіць...»

Засяроджана зірнуў
Я тады на Інку
І заўважыў не адну
У вачах іскрынку.

Паглядзеў і прамаўчаў –
Рана ганарыцца.
З той пары часцей пачаў
Ездзіць да сястрыцы.



**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## Нетыповы год?

Дай жа, Божа, снегу многа
І мяцельны карагод!
Мчаўся б саннаю дарогай
Дзед Мароз на Новы год.

З канцылярыі нябеснай
Вестак не чуваць даўно,
І замест віхурнай песні
Дождж пастуквае ў акно.

Кажуць, год быў нетыповы,
Нетыповы выпаў час.
Год прайшоў, а гэты, новы,
Чым парадуе ён нас?..




Мікола ГІРГЕЛЬ.

# Святочны тост

*(з беларускага фальклору)*

Дай жа нам, Божа,
Каб усё было гожа!
Каб нам хвала
Па ўсім свеце была!
Каб вяліся ў нас свінні, авечкі,
Каб жылі мы, як чалавечкі!




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.




Анастасія СКАРКО.




Павел ГАРАДЦОЎ.

Андрэй СІДАРЭЙКА

# Нечаканая ўвага

*З натуры*

Не паспеў Яўген Курачкін пераступіць парог арганізацыі, дзе працаваў, як пачуў ад Зоі Якаўлеўны:

– Добры дзень, Яўген Анатольевіч.

«Нічога сабе! – падумаў Курачкін. – Упершыню сама намеснік загадчыка аддзела павіталася са мной так прыязна і добразычліва!»

У працоўным кабінеце яго таксама цёпла сустрэлі астатнія супрацоўнікі, якія дагэтуль любілі толькі жартаваць ды кпіць з прычоскі і знешняга выгляду калегі. А Любачка нават прапанавала прыгатаваць кавы.

– Вялікі дзякуй, чаму і не, – адказаў Курачкін.

– Яўген Анатольевіч, а вы не будзеце на нас злавацца? – запыталася Любачка.

– За што? – здзівіўся мужчына.

– Ды за ўсё. Разумееце, мы проста жартавалі. А на самай справе мы вас вельмі любім і цэнім, – са шчырасцю прамовіла калега.

«Што адбываецца?» – нічога не разумеў Курачкін.

– Яўген Анатольевіч, – уступіў у бяседу сябар Сашка. – Ты нас там не забывай. Заходзь у госці. А лепш рабі так, каб нам прэмію большую ставілі.

– Там – гэта дзе? – здзіўлена пралапатаў Курачкін.

– Ну, чаго ты прыкідваешся? – заўсміхаўся Сашка. – Та-ам, і шматзначна падняў указальны палец правай рукі ўгору.

Курачкін спалохаўся. Гэты жэст ён зразумеў па-свойму:

– Ведаеш, Сашка, ты мне сябар, але... туды я яшчэ не збіраюся.

– Усё ўжо вырашана, – прашчабятала сакратарка Наташа. – Кажуць, ужо і загад ёсць. Вас сёння выклічуць падпісаць.

– Што?! – яшчэ мацней здзівіўся Курачкін.

У гэты момант у кабінет зайшла Настасся Аркадзьеўна – загадчыца суседняга аддзела.

– Калегі, адбой. Будучы намеснік галоўнага дырэктара Курачкін Яўген Анатольевіч прыбудзе да нас з іншай установы, а не.., – пры гэтым жанчына шматзначна зірнула на нашага героя.

– Як так? – у адзін голас сказалі Любачка, Саша і Наташа.



– Усякае ў жыцці бывае. Супадзенне, – паціснула плячыма Настасся Аркадзьеўна і выйшла з кабінета.

Усе панура ўзяліся за работу.

– Любачка, ты там нешта казала пра каву? – пацікавіўся ў калегі Курачкін.

– Сам зробіш, рукі не адваляцца. Бачыш, шмат спраў у мяне. І прычашыся нарэшце. А то ходзіш, нібы з куратніка вылез, – са злосцю адказала яму Любачка.

Яўген уключыў электрачайнік. Пасля нядоўгай прыемнай увагі нарэшце пачынаўся звычайны працоўны дзень. «А я ўжо хацеў ісці рака на гары шукаць ціваўка, які здох», – падумаў ён і ўсміхнуўся сам сабе.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*



Алег ПАПОЎ.

# Прыпеўкі

Мая жонка – камандзірка,
Без настрою дзень пры дні.
Як уключыць «малацілку»,
Паспрабуй яе спыні.

* * *

У каго пра скарбы мары,
Залатыя злітачкі.
У мяне – дык пра Канары,
Пра дзяўчатаў лытачкі.

* * *

Абдымаў мяне Даніла,
І туліў, і цалаваў.
Хоць была яму я міла –
У суседкі начаваў.

* * *

Расце ў полі мак чырвоны,
А на лузе – горкі хрэн...
Як адвыклі ад мільёнаў,
Так прывыкнем і да цэн.

* * *

Я спявала ды скакала –
Ларывона празявала.
Добра, трапіў у палон
Даўганосы Халімон.

* * *

Любіць Казік пакімарыць,
Цэлы дзень пра мора марыць.
А цяльняшку апране –
Спіць, як кот на дыване.

* * *

Мой Мікола неблагі,
Калі ўстане з той нагі.
Як падымецца не з той –
Нас трымае пад пятой.

* * *

Пакахаць хацела Сашу,
Але ён – як сыракваша:
Тварам – ясны, белы,
Ды ў аўсе нясмелы.

* * *

Я кахала кухара,
На яго аж дзьмухала.
А ён дранікі мне пёк,
Баяў баечкі – і ўцёк.

Праспявала
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

Каб быць заўсёды на кані,
А яшчэ лепей – на свінні!



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

# Футра Дзёда Мароза

*Гумарэска*

— Ну, хлопцы, зойдзем сёння ў наша месца? — зазірнуўшы ў кабінет, прапанаваў Яўген. — Згадзіцеся, што лепш стоячы выпіць больш, чым седзячы — менш!

Мікола і Анатоль падтрымалі сябра і пасля працы накіраваліся ў павільён. У мінулыя гады яны звычайна заходзілі ў кафэ, а цяпер цэны адчувальна падраслі, таму прапанова Яўгена была слушнай. Галоўнае ж не месца, а традыцыя. Напярэдадні Новага года яны заўсёды за чаркай абмяркоўвалі свае дасягненні і праблемы, дзяліліся планамі на будучыню.

Першым гаворку пачаў Яўген. На заводзе ён працаваў даўно, дапамагаў Міколу і Анатолю, калі тыя апынуліся ў яго аддзеле. Так і пасябраваў з імі.

— Сёння вечарам у мяне могуць быць вялікія праблемы, — цяжка ўздыхнуў ён.

— Што здарылася? — насцярожыліся таварышы.

— Жонка папярэдзіла: калі вярнуся дадому позна і нецвярозы, то не пусціць у кватэру.

Мужчыны спачувальна паківалі галовамі. Яны добра ведалі круты нораў Антаніны — жонкі Яўгена. Калі тая сказала, то так і зробіць.

— Можа, пойдзеш да каго-небудзь з нас? — нерашуча прамовіў Анатоль. — Хаця, зразумела, Новы год сустракаюць дома, у коле сям'і...

— Давайце лепш яшчэ па адной! — прапанаваў Мікола. — Тым больш, ёсць у мяне ідэя, як нашаму таварышу без праблем трапіць дадому.




Алег ПАПОЎ.

— Не цягні ўжо ката за хвост! — з надзеяй глянуў Яўген.

— Вы ж ведаеце, — пачаў той, — што мой цесць Адам Антонавіч — актывіст нашага домакіраўніцтва. А сёлета яго папрасілі паўдзельнічаць у правядзенні навагодніх віншаванняў дзяцей нашага дома. Выдалі чырвонае футра і ўсю астатнюю амуніцыю Дзеда Мароза. Дык ён ужо больш як тыдзень са Снягуркай, таксама пенсіянеркай «у росквіце сіл», ходзіць па кватэрах, выконвае заяўкі бацькоў. Злавілі маю думку? Не? Я папрашу ў Адама Антонавіча футра, а ты, Яўген, апранешся як Дзед Мароз і са святочнымі віншаваннямі зойдзеш у сваю кватэру. А там ужо ўсё будзе залежаць толькі ад цябе самога!

— За такую ідэю трэба выпіць! — павесялеў Яўген і напоўніў чаркі. — Толькі вось як мне потым вярнуць табе футра?



— А ты выйдзі на балкон і скінь са свайго дзявятага паверха. Я падніму ды хуценька вярну цесцю! — адказаў Мікола.

Так мужчыны і зрабілі. Калі позна вечарам яны, нарэшце, прыцягнуліся дадому, Яўген пазваніў у дзверы. Адчыніла жонка. Ён, як мага ніжэй нацягнуў на вочы шапку, моўчкі дастаў з торбы і ўручыў здзіўленай Антаніне каробку цукерак. Затым рашуча накіраваўся на балкон, зняў футра і шпурнуў яго ўніз. А сам з палёгкай уздыхнуў і накіраваўся да святочнага стала...

Неўзабаве патэлефанаваў Мікола:

— Яўген, колькі можна? Дзе футра?

— Я ж яго ўжо даўно скінуў! — разгубіўся той. — Можа, дзе зачапілася, пайду пашукаю...

— Куды пайшоў? — не вытрымала жонка. — Калі выйдзеш за дзверы, то дакладна не пушчу дамоў!

...У гэты час у адной з кватэр на трэцім паверсе гаспадар, убачыўшы на сваім балконе футра, па некалькі разоў аблазіў усе шафы і куткі. Усё шукаў, дзе схаваўся Дзед Мароз.

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

# Дамовіліся

Антось зваліў у лесе дуб.
Заспеў яго ляснік Якуб.
Забраў у дзядзькі ён сякеру
І сеў на пень складаць «паперу».
Антось патыліцу пачухаў:
— Ты пачакай, мяне паслухай.
Навошта гэты пратакол?
Вядома ж, кожны не анёл...
Дамовіцца не так і цяжка.
Дарэчы, у мяне ёсць пляшка.
— «Чарніла», бражка ці пяршак?
— Ды што ты! У мяне каньяк!
— Ну добра, а ці ёсць закуска?
— Ёсць, ёсць! Засмажаная гуска!
— Тады кладзі ўсё на пянёк,
Дубочак гэты «памянём»...
Звінелі чаркі, чуўся смех,
Ляцелі косці ў белы снег...
Праз дзень там, дзе яны пілі,
Яшчэ з'явіліся два пні.

**Уладзімір ФІЛАТАЎ,**
*г. Мінск.*







Алег ПАПОЎ.




Пётр КОЗІЧ х 2.

# Жаніхі

Я добра помню: ранняю вясной,
Калі на небе зор было багата,
Калі гуляў вятрыска над ракой,
Прыехаў да мяне жаніх у сваты.

На стол паставіў смачнага віна,
Я — сала, хлеба, курыцы палову.
Кульнуў адразу келіх свой да дна
Жаніх, тады павёў са мной размову:

— У вёсцы, нібы ў горадзе, жанкі
Па магазінах швэндаць маюць моду.
Ну, а ў мяне — карова, парсюкі,
Яшчэ і сорак сотак агарода.

У горадзе дачушка і сынок,
Пра родны кут успамінаюць мала.
Яны дадому з'явяцца здалёк,
Калі патрэбны грошы або сала.

Стаміўся гаспадарку сам трымаць,
Не сыпалася дарам манна з неба...
Цяпер вось будзеш ты дапамагаць,
Мне гаспадыня ў доме вельмі трэба!

Не гэткага чакала я ў жыцці...
Ды — лёс ліхі, не мы ў ім вінаваты.
Не здолела да памяці прыйсці,
Як тут другі жаніх прыйшоў у сваты.

— Я рад, што пазнаёміўся з табой,
Прыгожае каханне хутка прыйдзе.
З дачкою на дваіх у нас пакой —
У цеснаце, як кажуць, ды не ў крыўдзе.

Утульную кватэру прадасі —
Яна табе не трэба болей будзе.
А грошы лепей у сям'ю нясі,
Хоць напаследак пажывём, як людзі.

— Цябе раней не ведала зусім,
Але тваёй праніклася я доляй.
Цяпер адно хвалююся аб тым,
Каб на цягнік ты не спазніўся, Коля...

Не стала — ясна! — сумаваць па іх,
Напэўна маё шчасце побач ходзіць.
Прайшло нямала часу — і жаніх
Яшчэ адзін з мяне вачэй не зводзіць.

— Цябе сярод мільёнаў адшукаў,
Людзей такіх на свеце вельмі мала.
Жанчын, як ты, нідзе не сустракаў,
Нарэшце мне ў жыцці пашанцавала!

Такую хоць да раны прыляпі,
Заўсёды буду шанаваць і песціць.
Машыну толькі новую купі,
Каб мне было на чым у госці ездзіць.

Няма пра што тут гаварыць пасля...
Адна. Хоць жаніхоў такіх хапала.
Сяброўкі дакараюць, кажуць: я
Занадта пераборлівая стала...

**Антаніна РЫБАЛКА,**
*Петрыкаўскі раён,*
*п. Муляраўка.*






Трапілі ў яму Воўк, Ліса і Свіння.

Ліса глядзіць на Свінню і думае:

«Мяса ёсць, як-небудзь пратрымаемся, неяк прыдумаем, як адсюль вылезці».

Воўк паглядзеў на Свінню:

«Харч ёсць, кампанія прыемная – таксама. Жыць можна...»

Свіння паглядзела на сваіх суседзяў і кажа:

– Падаецца, у мяне цяжкае становішча. Давайце хоць спяю вам.

Тыя пагадзіліся. І тут Свіння як заверашчыць! Паляўнічыя пачулі, прыбеглі і забілі Ваўка і Лісу.

Апошняя думка ў свядомасці Ваўка:

«Мяса было... Прыемная жанчына побач... Дык не, шоу захацелася!»

* * *

Размова студэнтаў у інтэрнаце.

– Есці так хочацца. Давай свінню завядзём! Будзе ў нас каўбаса, сала, мяса...

– Не, бруду занадта многа.

– Нічога, прывыкне!

* * *

Чатыры гадзіны раніцы. Звоніць тэлефон:

– Алё, гэта таварыства абароны жывёл?

– І хто ж цябе, свіння, так рана пакрыўдзіў?

* * *

Муж і жонка абедаюць. Жонка разлівае на сябе боршч і кажа:

– Фу! Я выглядаю, як свіння!

– Ага, яшчэ і баршчом аблілася! – канстатаваў муж.

* * *

Адна з самых карысных жывёл – гэта свіння. Ад яе можна атрымаць: мяса для ежы, шкуру для адзежы ды абутку, валасы для шчотак, назву для абразы.

* * *

Свінарнік. Каля карыта з аб'едкамі сядзіць інтэлігентнага выгляду парася і акуратна есць нажом і відэльцам. Побач з ім вялізная свіння, стоячы пярэднімі нагамі ў карыце, перапэцканая брудам і рэшткамі ежы, пасміхаецца і пытае:



– Няўжо думаеш, што з цябе атрымаецца не каўбаса, а ванільнае пірожнае?

* * *

Пасля экскурсіі на свінаферму два гарадскія хлопчыкі-браты, уражаныя ўбачаным, вяртаюцца дадому. Старэйшы кажа маці:

– Мама, мы бачылі свінню, якая значна таўсцейшая за цябе!

Маці ў істэрыцы, дае па карку свайму сыну і пачынае горка плакаць.

Малодшы брат спрабуе супакоіць яе, гладзіць па руцэ і кажа:

– Супакойся, мама, таўсцей за цябе няма ні адной свінні на свеце!








Аляксандр ШМІДТ.

* * *

Маці з асуджэннем кажа сыну:

– Як жа ты запэцкаўся! Ведаеш, хто ты цяпер?

– Так, мама, парася, сын свінні, – знайшоўся малы.

* * *

Аб’ява.

Паважаныя супрацоўнікі! У навагоднім віншаванні ад імя дырэктара дапушчаная памылка. Фразу «З Новым Годам, Свінні!» трэба чытаць без коскі.

Аддзел кадраў.

* * *

Размова двух суседзяў.

– Слухай, твае свінні кураць?

– Не.

– Тады ў цябе хлеў гарыць!

* * *

– Марыя! – крычыць суседка. – Ты чым сваіх свіней корміш?

– А табе якая справа?

– Ды я гэтак жа схуднець хачу!




Алег КАРПОВІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.






Павел ГАРАДЦОЎ.




Мікола ГІРГЕЛЬ.

# Прыпеўкі

Нагляджуся я рэкламы
І бягу хутчэй да крамы.
Ах яна, нягодніца!
Спакушае модніцу!

* * *

Лабутэны як абулі,
Сталі моднымі бабулі.
Усю вёску абышлі –
Подыума не знайшлі.

* * *

Трактарыстам Стась працуе,
Сустракацца з ім хачу я.
Ды такі ў хлапца характар –
Больш за ўсё ён любіць трактар.

* * *

Думаў Казік пчол разводзіць,
Ды цяпер апухлы ходзіць.
Пакусалі рукі, твар –
Раззлаваў іх перагар.

**Уладзімір ФІЛАТАЎ,**
*г. Мінск.*




## Найлепшыя госці

Муж з жонкай прапаноўваюць сябрам:

– Прыходзіце да нас на Новы год!

– Мы не зможам.

– Так ласкава з вашага боку!

## Доўгачаканы падарунак

Трохгадовы хлопчык кажа сябру:

– Калі я вырасту, тата падорыць мне на Новы год... вусы!

## Прадбачлівасць

Калі вы сапраўды прадбачлівы муж, то навагодні падарунак жонцы ўручайце дзесьці дзён за дзесяць да свята. У вашай паловы яшчэ будзе час яго абмяняць!

## Дык вось чаму!

Памятаеце словы з песні: «Маленькай ёлачцы холадна зімой»? Менавіта таму яе з хаты прынята выкідваць бліжэй да сакавіка.

**Анекдоты ад Аляксандра ЗОТАВА,**
*г.Мінск.*




Алег ГУЦОЛ.




Алег ПАПОЎ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Павел ГАРАДЦОЎ.


Гэта ў туалет чарга?
Будзеш пілаваць– і ў мяне рогі вырастуць!
Па адной!
Снег па выгаднай цане!
5Р
10 Р
Цяпер жа год Свінні!..




Перадnavaгоднія замалёўкі Анастасіі СКАРКО.

# АДГАДАЙЦЕ КРАІНУ ПА ЯЕ НАВАГОДНЯЙ ТРАДЫЦЫІ

*Тэст*

*Навагоднія традыцыі розных краін свету могуць падацца нам дзіўнымі і незразумелымі. Але для кагосьці гэтыя звычаі — неад'емны атрыбут свята, які аб'ядноўвае сям'і і дапамагае спраўдзіцца запаветным жаданням.*



**1.** 108 удараў у званы паведамляюць жыхарам гэтай краіны пра надыход новага года.

- Японія
- Індыя
- В'етнам



**2.** У гэтай краіне на навагоднім стале абавязкова павінна быць заліўное парася.

- Украіна
- Венгрыя
- Аўстрыя



**3.** Перад новым годам усё напаўняюць куфлі вадой, а калі гадзіннік б'е дванаццаць, выліваюць яе праз адчыненыя вокны на вуліцу.

- В'етнам
- Куба
- Аўстралія



**4.** У гэтай краіне існуе звычай, згодна з якім роўна апоўначы галоўны ў сям'і выходзіць на двор і разбівае аб сцяну плод граната.

- Іспанія
- Грэцыя
- Італія



**5.** Служачыя ўстаноў у апошні дзень адыходзячага працоўнага года выкідаюць з вокнаў старыя календары, непатрэбныя ведамасці і бланкі.

- Францыя
- ААЭ
- Аргенціна



**6.** У першую хвіліну новага года жыхары гэтай краіны аглушальна свішчуць у дудачку або ражок.

- Англія
- Панама
- Венгрыя



**7.** Жыхары гэтай дзяржавы ў навагоднюю ноч спальваюць велізарных лялек, якіх яны за некалькі тыдняў да свята шыюць і набіваюць паралонам.

- Інданезія
- Чылі
- Эквадор



**8.** Пад Новы год у гэтай краіне прынята разбіваць посуд каля дзвярэй суседзяў.

- Швецыя
- Францыя
- Італія



**9.** Напярэдадні Новага года жыхары раскрываюць дзверы сваіх дамоў насцеж, і любы жадаючы можа спакойна ўвайсці. Гаспадары яго тут жа пасадзяць за стол на самае пачэснае месца.

- Ірландыя
- Тайланд
- Грузія



**10.** З надыходам цемры жыхары гэтай краіны запальваюць вогнішчы ў парках, садах або на вуліцах. Каля іх збіраюцца некалькі сямей, на вуглях гатуюць асаблівыя прысмакі з рысу.

- Кітай
- В'етнам
- Індыя

*Праверыць сябе можна на старонцы 24.*

**Краіны загадвала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Міхаіл ЗНАЙДЗЮК.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

Віншуем!

# Казіміру КАМЕЙШУ – 75!


Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Ажно не верыцца, што ў снежні Казіміру КАМЕЙШУ, выдатнаму беларускаму пісьменніку, споўнілася... 75 гадоў! Не верым, але віншуем! Жадаем, каб ён не лічыў свае гады (якія, несумненна, яго багацце) і па-ранейшаму заставаўся бадзёрым, вясёлым і працавітым. Каб быў плён у творчасці, радасць – у жыцці, усмешка – на твары.

Рэдакцыя часопіса і рэдкалегія чакаюць ад Казіміра Вікенцьевіча, шчырага вожыкаўца, новых таленавітых твораў. Няхай вясёлая Муза не пакідае вас, генерала айчыннай літаратуры, ні ўдзень, ні ўночы!

**Казімір Камейша**

## У доме песняра



З-за лесу мы і з-за ракі,
У час не горшы самы,
Ідзём сюды як сваякі
І як сыны таксама.



Дзе ўсё знаёмае даўно
І гаспадар гасцінны,
Дзе пачастуюць і віном,
І добрым успамінам.

Не баязліваю хадой,
Ідзём хадой вясёлай.
Калі настаўнік кліча ў дом,
Лічыце – кліча ў школу.

Ён нас пасадзіць не за стол,
А як калісь – за парты.
А там паглянем, хто ёсць хто,
Чаго з нас кожны варты.

Ды што глядзець – і так відаць,
Хто дуж тут, хто слабейшы,
Каму найпершым слова даць...
І зноў даюць Камейшу.



## Стары капялюш

Згадзіўся б ён, старэнькі,
для гнязда,
І птушка б з ім згадзілася,
магчыма.
А ён жа мне як той ратоўны дах,
Яшчэ й сядзіць так важна
над вачыма.





І пазнаюць па ім мяне здалёк,
Здыму яго – дык кінуць грош,
бывае.
Ён лысіну ратуе ў санцапёк
І старасць ад вачэй яшчэ хавае.

Здыму яго яшчэ разок: а ну ж –
І пакладу ля ног, і пачакаю:
Хто кіне грош, а хто тых самых
груш,
І не здзіўлюся, калі кінуць
камень.



# Усяго патроху!



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Міхаіл ЗНАЙДЗЮК.



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Алег ГУЦОЛ.




Пётр КОЗІЧ.




# Елачка-прыгажуня

*Казка*

У адным лесе побач з сасною, дубам і бярозкай стаяла маленькая пухнатая елачка. Яна была пяшчотная і добрая, кожнаму, хто прасіў, дапамагала.

– А прывядзі ты, дзіцятка, калі табе не цяжка, сыночка майго, жалудочка, – звяртаўся да яе дуб. – Нешта дужа далёка ён закаціўся, баюся, што заблудзіцца.

Елачка тут жа падхопіць малога і прынясе да таткі.

– Дзякуй вялікі, дачушка. Хай табе заўсёды шчасціць, – шчыра казаў дуб, калі даручэнне было выканана.

– Золатка, згубілася завушнічка мая, – ледзь не плача бярозка. – А ты ж маладзенькая, і вочкі твае добра бачаць. Пашукай, калі ласка, можа знойдзецца.

Не паспела сказаць бярозка, а суседачка ўжо знайшла завушніцу тую.

І сасне таксама дапамагала елачка шышкі зрываць ды ў вавёрчына дупло заносіць, каб не цяжка галінкам трымаць іх было.

– Якая ж ты ў нас разумніца! – не маглі нарадавацца дрэвы. – Такая чулая ды працавітая. І што ж мы будзем рабіць, калі забяруць цябе аднойчы?

– Куды забяруць, чаму? – міргала вочкамі елачка і ніяк не магла ўцяміць.

– Зусім яшчэ малая, – цяжка ўздыхала цётка сасна, – можа і добра, што не разумееш.

Час ішоў. Елачка падрастала. Неяк аднойчы напярэдадні Новага года прыбеглі ў лес двое дзетак з саначкамі. Пачалі выбіраць елку.

– Ой, глядзі, Уладзік, якую прыгожанькую я знайшла! – паклікала браціка Аленка. – Ідзі сюды хутчэй.

– І праўда, – згадзіўся той. – Давай яе і забяром.

Яны паклалі елачку на санкі і прывезлі дадому. Затым прынеслі ў хату. А яна плача, бедная, горкімі слязьмі.

– Ды супакойся ты, маленькая. Мы цябе не пакрыўдзім. Наадварот, упрыгожым, – супакоіла елачку Аленка.

І дзеці пачалі чапляць на яе цацкі, лямпачкі, дожджык, мішуру. Глянула елачка ў люстэрка – і сапраўды прыгажуня! А ноччу, калі ўсе паснулі, вырашыла яна збегаць у лес да сваіх. Павіншаваць іх з надыходзячым святам. Ой, колькі радасці было! Суседзі ледзь пазналі елачку. Пачалі танчыць і спяваць. Ніяк не маглі надзівіцца на цацкі і лямпачкі.

– Добра вельмі з вамі. Але ж час мне ўжо назад вяртацца, – апамяталася елачка. – Аленка з Уладзікам чакаюць. Ды вы не хвалюйцеся, пасля свята адразу вярнуся дадому.

Развіталася прыгажуня з суседзямі і хуценька пабегла да людзей. Яна зразумела, што без яе сапраўднага Новага года не бывае.

**Лёля БАГДАНОВІЧ,**
*г. Барысаў.*

# ЗІМОВЫЯ ЗАГАДКІ

Новы год, снегавікі,
Лыжы, санкі і канькі.
Мандарыны і хурма –
Дорыць гэта нам...
(Зіма.)

* * *

Выступдзіў палі і лес,
Пашчыпаў дзяцей за нос.
На акенца шпарка ўзлез,
Шкло распісвае...
(Мароз.)

* * *

Ёлка ў госці завітае
І гірляндамі заззяе.
Шмат цукерак будзе ў хаце
На зімовым яркім свяце.
Жменю казачных прыгод
Нам падорыць...
(Новы год.)

* * *

Упрыгожвае зіму,
Коўдрай сцелецца ў мароз.
Толькі па вясне яму
Не стрымаць халодных слёз.
Ручайкамі ў рэчку збег,
Бо цяпла не любіць...
(Снег.)

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




Маша доўга ламала галаву, што надзець дачцэ на навагодні ранішнік. У выніку купіла малой крылы, маску, карону і веер. Усё гэты было зроблена з белага пер'я.

Дзед Мароз адрэагаваў на яе касцюм словамі:

– Якая прыгожая сняжынка!

На што дзяўчынка ўрачыста прамовіла:

– Я не сняжынка. Я цуд у пер'і!

* * *

Аліса (7 гадоў) піша ліст Дзеду Марозу з пералікам падарункаў, якія яна хацела б знайсці пад ёлкай.

– Ты не толькі прасі падарункі, але і напішы, як ты сябе паводзіла ў гэтым годзе.

Дзяўчынка пачала разважаць услых:

– Калі я напішу, што паводзіла сябе добра, то гэта будзе няпраўда. Калі скажу, што дрэнна, то Дзед Мароз нічога мне не прынясе.

У выніку Аліса вывела алоўкам: «Дарагі Дзед Мароз! У гэтым годзе я паводзіла сябе арыгінальна...»

* * *

У навагодні вечар Ігнат (4 гады) начапіў сабе на шыю мішуру і ўявіў сябе Дзедам Марозам. Бацька пытаецца:

– Што ты нам падорыш, Дзядуля Мароз?

Малы, пераймаючы бас Дзеда Мароза, адказвае:

– Табе, мама, я падару туфлі, а табе, тата, (зусім пагрозліва) – дэзадарант!

* * *

Маці пытае ў Мішы (7 гадоў):

– Сынок, ты будзеш пісаць Дзеду Марозу ліст?

– Навошта? – здзівіўся той.

– Ну, ты ж падарунак хочаш атрымаць?

– Добра, напішу. Толькі табе не пакажу. Паглядзім, як ён выкруціцца!

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі.

– Што зрабіла твая малая, калі муж прынёс дадому навагоднюю ёлку?

– Крычала, што ёй не дазваляюць прыносіць з вуліцы нават маленькую палачку, а тату можна цэлае дрэва прыцягнуць!

* * *

Бацькі пытаюцца ў сына (4 гады):

– Бора, а што б ты хацеў атрымаць ад Дзядулі Мароза?

– Яго мех з падарункамі! – крыху падумаўшы, выдаў хлопчык.

* * *

Маці пайшла з дачкой (9 гадоў) на навагоднюю ёлку. Дзяўчынка ўбачыла касцюміраванага Дзеда Мароза і захацела сфатаграфавацца з ім. Той сказаў:

– Фота з жывым Дзедам Марозам будзе каштаваць 5 рублёў.

– А з мёртвым? – адразу знайшлася малая.

* * *

На навагоднім ранішніку.

– Раз, два, тры, ёлачка, гары! – крычаць дзеці і бацькі.

Але гірлянда не свеціцца.

Дзед Мароз:

– Чаму ж ёлачка не гарыць? Напэўна, хтосьці прамаўчаў!

Спалоханы тонкі дзіцячы голас:

– Гэта не я!

* * *

Соня піша ліст Дзеду Марозу. Старанна выводзіць літары. Потым пытаецца:

– Мама, а як пішацца слова «дыяменты»?

* * *

Дзіма (4 гады) на Новы год атрымаў у падарунак цэлую скрынку кіндэр-сюрпрызаў. У госці прыйшла бабуля. Уся сям'я села за святочны стол. Хлопчык разгортвае адно шакаладнае яйка і пачынае ўплятаць. Маці тактоўна намякае, каб ён падзяліўся з роднымі:

– Дзіма, а ты будзеш адзін кіндэр-сюрпрыз есці?

Дзіця імгненна адказвае:

– Не, напэўна, два!

* * *

Маці з дачкой пішуць ліст Дзеду Марозу. Жанчына:

– Які падарунак ты хочаш атрымаць?

Дзяўчынка дзелавым тонам:

– Дзіцячы камп'ютар... Толькі хай мне яго тата падорыць, а Дзед Мароз – цукеркі ці ляльку.

– Чаму? – здзівілася маці.

– А тата... ён больш надзейны! – патлумачыла малая.

**Падслухала**
**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Пятровы рыхтаваліся да сустрэчы Новага года. Алег Іванавіч засяроджана наразаў інгрэдыенты для салатаў, Ганна Міхайлаўна ўзбівала крэм для торта. На пліце нешта варылася, смажылася, запякалася. Раптам у кухню заляцела чырвоная ад марозу іх дачка, студэнтка Ніна. Схапіла бутэрброд і пачала есці, спрабуючы пры гэтым штосьці вымавіць.

– Сядай за стол і паеш як нармальны чалавек, – строга сказаў бацька. – Потым скажаш, што здарылася.

Ніна шпарка праглынула ежу і затарахцела:

– Мамуля, татуля! Дазвольце мне з аднагрупнікамі сустрэць Новы год на нашай дачы.

– Пачакай, – здзівілася Галіна Міхайлаўна, – наколькі я ведаю, вы збіраліся святкаваць на кватэры Уладзіка. Адкуль знянацку з'явіўся дачны варыянт?

– Да яго маці нечакана госці з Расіі прыехалі, а ў нашай групе мясцовыя толькі мы з ім.

– Як бацькам на гародзе дапамагчы, дык цябе не дачакаешся, а як гулі ўчыняць, дык наша дача – найлепшае месца, – прамовіў Алег Іванавіч.

– Не бурчы, бацька, справа маладая, няхай пагуляюць ды нашу фазэнду наведаюць. Толькі потым навядзіце парадак, – з гэтымі словамі маці дастала ключы.

Бацька дадаў:

– Тады і сцежкі пачысціце, а то снегам усё закідала. Печ як след пратапіце, бо інакш змерзнеце.

Ніна запляскала ў далоні:

– Ура! Пабягу ўзрадую сяброў!

Маці крыкнула наўздагон:

– Глядзі, назаўтра праверым, як вы там нагаспадарылі!

На вакзале моладзь пагрузілася ў цягнік і са спевамі пад гітару накіравалася ў дарогу. Ад станцыі давялося з паўгадзіны пешшу ісці па заснежаным лесе. Калі кампанія падышла да дачнага пасёлка, Ніна разгубілася:

– А дзе ж тут наша дача?

– Нічога сабе заявачка, – сказаў Улад, – ты калі тут была апошні раз?

– Гады два таму назад...

– А якія-небудзь прыметы памятаеш?

– Дом зялёны, дах з шыферу, ялінка каля ганка... – няўпэўнена адказала дзяўчына.

– Дык вось твая дача, – крыкнуў нехта з аднагрупнікаў.

І сапраўды, побач знаходзіўся ўчастак, які цалкам падыходзіў да апісання. Ніна падбегла да дома, дастала ключы і пачала адмыкаць дзверы.

– Штосьці не атрымліваецца, – збянтэжана вымавіла дзяўчына. – Ці замок замерз, ці маці ключ пераблытала.

– Што б вы без мяне рабілі, – уздыхнуў Улад, дастаў з кішэні сцізорык, пакалупаўся некалькі хвілін у замку і ўрачыста прамовіў: – Прашу ў апартаменты!

Закіпела работа. Хлопцы прынеслі дроў, растапілі печ і расчысцілі снег. Дзяўчаты ўпрыгожылі ялінку і накрылі святочны стол.

Вечарына прайшла цудоўна: студэнты спявалі, скакалі вакол ёлкі, запускалі салют.

Раніцай кампанія зазбіралася дадому. Памылі посуд, усё прыбралі. Ніна заўважыла:

– Засталося дзве бутэлькі шампанскага, каробка цукерак, каўбаса, сыр, шпроты.

– Адну бутэльку і цукеркі возьмем з сабой, у дарозе спатрэбяцца. Астатняе пакінем тут. Прыедуць твае бацькі, будзе ім сюрпрыз,– распарадзіўся Улад.

Калі Ніна вярнулася дадому, бацькі ўжо збіраліся ў дарогу.

– Як пагулялі? – пацікавілася маці.

– Цудоўна! – адказала дачка. – Было так весела.

– Можа, нікуды не паедзем? – спытаў Алег Іванавіч. – Пасядзім дома, тэлевізар паглядзім.

– Не, трэба пракаціцца, а то невядома, што яны там нарабілі! – не пагадзілася Галіна Міхайлаўна.

Праз паўтары гадзіны бацькі былі на дачы.

– Нічога не разумею, – здзівіўся бацька Ніны, – дарожкі ўсе ў снезе, у хаце чыста і холадна.

– І сапраўды, дзе ж была наша дачка? – задумліва сказала жанчына.

У гэты час у яе зазваніў тэлефон.

«Гэта Таня Цеплякова. Напэўна, павіншаваць хоча», – прамовіла гаспадыня, зірнуўшы на экран апарата.

З мабільніка пачулася:

– Прывітанне, сяброўка! Віншую цябе і тваю сям'ю з Новым годам, жадаю моцнага здароўя, шчасця, кахання і ўдачы! Вы дзе зараз знаходзіцеся?

— Мы на дачы! Дзякую за віншаванне. Вашаму сямейству жадаем таго ж у двайным памеры! — адказала Галіна.

— Мы таксама тут! Прыходзьце, пасвяткуем разам, — прапанавала Таня.

— А можа, лепш да нас? — прамовіў Алег Іванавіч.

— Не, мы вас чакаем, — пачуўся голас сяброўкі, — у нас тут нейкая кампанія пагуляла! Прачысцілі дарожкі, упрыгожылі ялінку, пратапілі печ. Да таго ж пакінулі шампанскае і ежу. Аднак пры гэтым зламалі замок, так што пакуль хату пакінуць не можам, — і адключыла сувязь.

— Дык вось дзе была наша дачка, — засмяялася Галіна Міхайлаўна.

— Чаму тут здзіўляцца? — заўважыў муж. — Дачы мы будавалі адначасова, па адным праекце, таму яны як блізняты. Пойдзем прасіць прабачэння? У мяне ёсць запасны замок, захопім з сабой. А яшчэ закатак тваіх.

Праз чвэрць гадзіны Пятровы раскрылі сябрам сакрэт натопленай хаты, падарылі новы замок і доўга смяяліся з гэтай прыгоды.

**Валерый КАВАЛЬЧУК,**
*г. Гомель.*







Алег ПАПОЎ х 2.




Алег ГУЦОЛ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

# Зіма-Чараўніца




**Па гарызанталі:**

**1.** «Снежак ... . // Санак след. // Снежна. Санна. Свежа» (*з верша А. Вялюгіна «Снежань»*). **7.** «Будзе Дзед Мароз з Снягуркай // ... раздаваць» (*з верша Г. Дземідовіч «Новы год»*). **8.** Снег на Раство – будзе ўраджайны ... (*прыкмета*). **10.** Краіна ў Заходняй Афрыцы, дзе ёсць традыцыя ў навагоднюю ноч гучна крычаць, каб пазбавіцца ад усяго негатыву. **11.** Кармушка для жывёлы. **13.** Маладзік ... задраў – на пагоду (*народная прыкмета*). **14.** Калі ў ноч на Раство ... зорнае, то ў бягучым годзе чакай багатага прыплоду жывёлы (*народная прыкмета*). **15.** Багаты на вітаміны плод паўднёвага дрэва. **16.** Птушка, якая жыве на балоце; кнігаўка. **18.** Смех – лепшыя ... (*прыказка*). **19.** «Снежань. Снежна. Снегіры. // ... шпарка ймчацца» (*з верша Ю. Півунова*). **23.** «Забярэцца ў ... мароз, // Прабярэ цябе наскрозь. // Каб ад сцюжы не сканаць, // Мусіць заяц ноч скакаць» (*з верша М. Танка «Заечы дом»*). **25.** У мове паляўнічых – асенні холад да выпадзення снегу. **26.** «Пад гукі гулкія завей //... пранеслась, чараўніца» (*з верша А. Грушэцкага*).

**Па вертыкалі:**

**1.** ... пад акном зімой зачырыкае – чакай адлігі (*народная прыкмета*). **2.** «Новы год – і госці зранку // Прыляцелі ў ... да Янкі. // Снег ідзе, мароз трашчыць, // Цяжка птушкам бедным жыць» (*з верша М. Сазончыка «Госці»*). **3.** Зімовы прысвятак, які адзначалі 9 снежня, ... мосціць, а Мікола гвоздзіць (*прыказка*). **4.** Закончаная частка спектакля. **5.** Паслядоўнік індыйскага рэлігійна-філасофскага вучэння. **6.** Пацяпленне зімой пасля марозу. ... на Куццю – ранняя вясна і благое лета (*прыкмета*). **9.** Нібы ў белы пухавік апрануўся ... (*загадка*). **12.** «Снежань – першы густы ...» (*з верша П. Панчанкі «Родная мова»*). **15.** «Зімой чакае шмат выгод: // Канькі і лыжы, санкі, снежкі, // ..., ёлка, Новы год, // Забавы, жарты і усмешкі» (*з верша П. Шаколы «Зімовае»*). **17.** «А ...! Чаго толькі // На яе няма галінках! // Свецяць зоркі і вясёлкі // У бліскучых павуцінках» (*з верша Я. Коласа «Дзед Мароз»*). **20.** «Мароз як пацалуе ў шчокі, // ажно ўсяго кідае ў ...» (*з верша П. Броўкі «Зімовае»*). **21.** «Мароз, як ... бязжаласны, // Ў лёд рэчкі акаваў» (*з верша Я. Купалы «Зіма»*). **22.** У снежні мядзведзь у бярлозе на другі ... паварочваецца. **24.** Нота музычнай гамы.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Адказы на крыжаванку на стар. 24.**



## Эротыкатуры Алега ГУЦОЛА













# Тлумачэнне
## да навагодняга тэста

**1. Японія.** Па даўнім павер'і, кожны звон знішчае адну з чалавечых заган, якіх, на думку японцаў, існуе ўсяго шэсць: прагнасць, злосць, глупства, легкадумнасць, нерашучасць і зайздрасць. Але кожная з іх мае 18 адценняў.

**2. Аўстрыя.** Лічыцца, што калі з'есці кавалачак ад заліўнога парасяці, увесь наступны год будзеш шчаслівы.

**3. Куба.** Гэты рытуал азначае, што стары год шчасліва скончыўся. А кубінцы такім чынам жадаюць адзін аднаму, каб і новы год быў такім жа ясным і чыстым, як вада.

**4. Грэцыя.** Калі зерне граната разляціцца па ўсім двары, то ў новым годзе сям'я будзе жыць шчасліва.

**5. Аргенціна.** У дзелавой частцы краіны — Буэнас-Айрэсе — ужо да поўдня тратуары і праезная частка густа пакрываюцца пластом паперы. Ніхто не ведае, як і калі з'явіўся гэты звычай.

**6. Венгрыя.** Лічыцца, што свіст адганяе ад жылля злых духаў і заклікае поспех і дабрабыт.

**7. Эквадор.** Лялькy спальваюць каля дома, а вецер пры гэтым разносіць разам попелам нягоды і смутак мінулага года.

**8. Швецыя.** Лічыцца, што чым больш рэштkaў пабітага посуду, тым больш шчасця будзе ў новым годзе.

**9. Ірландыя.** Сапраўды, ірландцы здзіўляюць увесь свет сваёй ветлівасцю. Любому госцю яны паднясуць келіх выдатнага віна і абавязкова скажуць: «За мір у гэтым доме і ва ўсім свеце!»

**10. В'етнам.** Каля вогнішча забываюць усе сваркі і даруюць крыўды. Бо Новы год — гэта свята дружбы! Увесь наступны дзень в'етнамцы праводзяць са сваёй сям'ёй.

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 12 (1563), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 06.12.2018. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,26. Тыраж 644 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2018
© РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», 2018

**Адказы на крыжаванку (стар. 22):**

**По гарызанталі:**

**1.** Смех. **7.** Падарункі. **8.** Год. **10.** Гана. **11.** Яслі. **13.** Рогі. **14.** Неба. **15.** Ківі. **16.** Каня. **18.** Лекі. **19.** Сані. **23.** Дом. **25.** Чарнатроп. **26.** Зіма.

**Па вертыкалі:**

**1.** Снягір. **2.** Сад. **3.** Юр'е. **4.** Акт. **5.** Ёг. **6.** Адліга. **9.** Снегавік. **12.** Снегапад. **15.** Каляды. **17.** Ялінка. **20.** Жар. **21.** Кат. **22.** Бок. **24.** Мі.


Актуальныя карыкатуры
Аляксандра Каршакевіча


Куды прэцеся? Тут людзі спяваюць пра родныя карані!


Дыр-дыр-дыр-дыр!...
Раней наш дырэктар кіраваў толькі матацыклам.


інвалід


У суседзяў цякучы рамонт…


Я за вамі буду.
АКаршакевіч'18

# З НОВЫМ ГОДАМ!

©OLEG GUTSOL

Алег ГУЦОЛ.

**І зімою не будзе слізка,**
**Як на «Вожык» аформіш падпіску!**

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.

**«Вожык» прыйдзе кожнаму жыхару Беларусі!**



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2019 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе**:
індэкс 74844, цана 5,00 рублёў,
індэкс 01380, цана 4,10 рублёў,
індэкс 748442, цана 14,30 рублёў,
індэкс 01381, цана 11,50 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ – па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




